# Тыднёвік Магілёўскі

Тыднёвік Магілёўскі

№ 11 (152) 15 — 21 сакавіка 2002 г. Кошт 100 руб.


## ... Каму належыць Незалежнасьць





***Нацыянальны арганізацыйны камітэт па сьвяткаваньні Дня волі даслаў на наш адрас Зварот да суайчыньнікаў, які мы й падаем ніжэй зь нязначнымі скарачэньнямі. Пазначым таксама тое, што ў Камітэт увайшлі прадстаўнікі вядучых палітычных партыяў і грамадзкіх арганізацыяў, творчай і навуковай інтэлігенцыі, гаспадарчай эліты нашай краіны – людзі, што нястомна захоўваюць і нясуць наступным пакаленьням ідэалы нацыянальнага Адраджэньня...***

*“Шаноўныя суграмадзяне! 25-га сакавіка мы будзем сьвяткаваць 84-я ўгодкі абвяшчэньня Беларускай Народнай Рэспублікі. Гэтая падзея адкрыла нашай краіне шлях у сям’ю вольных і самастойных дзяржаваў сьвету, дала беларусам магчымасьць самім будаваць сваё жыцьцё, грунтуючыся на прынцыпах дэмакратыі й нацыянальнай незалежнасьці.*

*...Менавіта Акт 25-га сакавіка 1918г. стаўся ўзорам пры абвяшчэньні незалежнасьці Беларусі ў 1991г., калі нацыянальныя сымбалі Беларускай Народнай Рэспублікі – герб “Пагоня” і бел-чырвона-белы сьцяг – былі зацьверджаныя дзяржаўнымі сымбалямі Рэспублікі Беларусі.*

*... За апошнія восем год, пасьля рэстаўрацыі ў краіне антыдэмакратычнага рэжыму, Беларусь апынулася ў ізаляцыі ад крыніцаў інвэстыцыяў і сучасных тэхналёгіяў, што пазбаўляе эканоміку краіны ўсялякай пэрспэктывы. Зьнішчэньню падвяргаецца і духоўны патэнцыял нацыі. Ідзе запляналаваны наступ на беларускую мову і культуру. Давяршаецца разбурэньне падмурку сыстэмы нацыянальнай адукацыі. Зьнішчаюцца нацыянальныя сродкі масавай інфармацыі, сыстэма беларускага кнігадруку. Рэжым гандлюе самым дарагім – дзяржаўнасьцю і незалежнасьцю краіны.*

*Аднак незалежнасць ёсьць набыткам ня толькі сёньняшняга пакаленьня, але – нашых продкаў і належыць нашчадкам. Сувэрэнітэт краіны ня можа быць абмежаваны або скасаваны праз рашэньні дзяржаўных асобаў і органаў, нават праз рэфэрэндум. Пра гэта было абвешчана на Ўсебеларускім зьезьдзе за незалежнасьць 29-га ліпеня 2000г., які прыняў Акт незалежнасьці Беларусі.*

*... Ніхто не пабудуе ў нашай краіне нармальныя, годныя ўмовы жыцьця лепш за нас саміх. Перад беларускай нацыяй, усімі грамадзянамі Беларусі сёньня стаяць наступныя лёсавызначальныя мэты:*

*– Усталяваньне дэмакратычнага дзяржаўнага ладу.*

*– Забесьпячэньне палітычных і сацыяльных правоў чалавека.*

*– Захаваньне і ўмацаваньне беларускай дзяржаўнасьці, сувэрэнітэту і незалежнасьці Рэспублікі Беларусі.*

*– Спрыяньне яднаньню беларускага народа дзеля супольнай стваральнай працы па адбудове нашага агульнага эўрапейскага дому.*

*– Разьвіцьцё эфэктыўнага міжнароднага супрацоўніцтва з краінамі і народамі сьвету на карысьць духоўнага і матэрыяльнага ўзаемаўзбагачэньня.*

*Віншуем усіх грамадзянаў Беларусі з Днём Волі! Жыве Беларусь!*

*(Для ілюстраваньня тэмы мы ўзялі здымкі Зянона Пазьняка зь ягонай кнігі вершаў і зацемак “Глёрыя Патрыя”)*

## Такая кніга будзе абавязкова

***Аб’яднаная грамадзянская партыя ў асобе лідэра Анатоля Лябедзькі выступіла з прапановай выдаць кнігу пад назвай “Маці і сыны”. Партыя распачала збор ахвяраваньняў на яе выданьне.***

Анатоль Лябедзька наступным чынам тлумачыць ідэю: “Нашая прапанова ёсьць натуральным вынікам сустрэчаў і гаворак з маткамі зьніклых палітыкаў – Валянцінай Ганчар, Верай Карпенкай, Ульянай Захаранкай, Алай Клімавай. Усе яны самі па сабе выдатныя жанчыны зь няпростымі, і як цяпер зразумела, трагічнымі лёсамі. Кожная зь іх найлепшым чынам адлюстроўвае тое, кім ёсьць іхныя сыны – Віктар, Генадзь, Юры і Андрэй. Такія сыны маглі выхавацца толькі ў такіх маці. Мы іншы раз шукаем герояў пад пластом часу альбо ў замежжы. А яны зусім побач, у Першамайскім пасёлку, у вёсцы Васілевічы, у Менску... Мы спадзяемся і ўпэўненыя, што на нашую прапанову адгукнуцца прадпрымальнікі, нашыя суайчыньнікі за мяжой, нашыя неабыякавыя грамадзяне”.

***Дадатковая інфармацыя на гэтую тэму – па тэлефоне: (8-017) 211-02-79, а таксама на сайце www.ucpb.org***

СУД У ШКЛОВЕ

## Магчыма, што хлопцы прысуд ведаюць

***Мы ж і, адпаведна, нашыя чытачы адносна прысуду ў “шклоўскай справе” знаходзімся ў няведаньні.***

На момант падпісаньня газэты ў друк нам было невядома, ці адбылося ***ўчора*** ўвогуле апошняе, як паведамлялася раней, паседжаньне суду й ці вынес ён, як чакалася, прысуд. Такім чынам, заключнага рэпартажу з Шклову, дзе Максіма Патупчыка, Міхася Кавалёва, Дзяніса Сенакосава, Аляксандра Паўловіча і Зьміцера Шалашкова судзяць за “абразу прэзыдэнта”, прыйдзецца тыдзень пачакаць.

А тым часам флюіды гэтай палітычна матываванай справы дабраліся да абласнога цэнтру. У магілёўскім політэхнікуме пазаўчора адбылося паседжаньне пэдагагічнай рады. Па ініцыятыве дырэктара А.Шапчыца выкладчыкі абмеркавалі прапанову аб выключэньні з тэхнікуму аднаго з шклоўскіх падсудных – Аляксандра Паўловіча, і ягонага сябра, актывіста моладзевай сэкцыі АГП Аляксандра Каліты. Прапанову жвава падтрымалі, сярод іншых, сам дырэктар, ягоная намесьніца спн.Басюкова, выкладчыца дысцыпліны “Правады і наладка” спн.Алешчанка, намесьнік дырэктара па выхаваўчай працы сп.Ляўкоў... Устрымаліся ад галасаваньня толькі шэсьць выкладчыкаў, чаго не хапіла, каб хлопцы засталіся студэнтамі.

Абараніць выключаных з тэхнікуму цяпер можа толькі камісія па справах непаўнагадовых, куды пэдагагічная рада перадасьць сваё рашэньне. Паколькі самі хлопцы лічаць, што іхнае выключэньне не зьвязанае з дысцыплінай ці ўзроўнем вучобы, яны мяркуюць, як і раней, наведваць заняткі. Аднак заяву на гэты конт сакратарка дырэктара адмовілася ў іх прыняць, матывуючы тым, што “бачыць такое ўпершыню”, і таму ёй неабходна параіцца – зразумела, з дырэктарам...

***Дзяніс НОВІКАЎ***

***Пакуль нам невядома, ці замовіла якая магілёўская палітычная арганізацыя масавае мерапрыемства на 25-ае Сакавіка. Аднак безумоўна, што Дню Волі будуць прысьвечаныя вечарыны і імпрэзы, на правядзеньне якіх дазволу ўлады не патрабуецца. Сьвята будзе адзначанае патрыётамі і ў сваіх хатах, аб чым нагадаюць, як гэта робіцца традыцыйна, запаленыя ў вечаровых вокнах сьвечкі...***

## Гімн у чаканьні краіны

***У Менску прайшоў сход грамадзкасьці, большасьць удзельнікаў якога выбралі “Магутны Божа” нацыянальным гімнам Беларусі.***

Духоўны беларускі гімн на словы Натальлі Арсеньневай і музыку Міколы Равенскага палічылі неабходным зрабіць дзяржаўным 130 прадстаўнікоў творчай і навуковай інтэлігенцыі, сябраў палітычных партыяў і грамадзкіх арганізацыяў. Амаль усе выступоўцы казалі, што нацыянальна-дэмакратычныя сілы мусяць урэшце зрабіць тое, чаго не ўдалося дасягнуць на пачатку 1990-х – зацьвердзіць варыянт нацыянальнага гімну, каб трыяда нацыянальных сымбаляў (сьцяг, герб, гімн) была поўнай.

Сярод варыянтаў, якія абмяркоўваліся на сходзе, таксама была песьня “Радзіма мая дарагая”, сучасная апрацоўка старажытнага канту з “Полацкага сшытку” 16-га стагодзьдзя, два варыянты “Пагоні” Багдановіча й гімн БНР “Мы выйдзем шчыльнымі радамі”. Вядомыя паэты Ніл Гілевіч, Генадзь Бураўкін, мастакі Мікола Купава й Аляксей Марачкін казалі, што гімнам можа стаць толькі тая песьня, якая ўжо мае папулярнасьць у народзе й не выклікае адмоўнай рэакцыі. Большасьць вырашыла, што такой песьняй ёсьць “Магутны Божа”.

Удзельнікі сходу накіравалі свой варыянт нацыянальнага гімну ў дзяржаўную камісію, якая праводзіць адпаведны конкурс. Праўда, мала хто зь іх спадзяецца, што цяперашнія ўлады прымуць “Магутны Божа”. Тым ня менш, папулярызацыя гэтага гімну, на думку інтэлігенцыі, паспрыяе таму, каб у будучыні ён разам зь бел-чырвона-белым сьцягам і гербам “Пагоня” стаў дзяржаўным сымбалем Беларусі.

***Альгерд НЕВЯРОЎСКІ***



## Свой погляд на тыдзень воблясьці

**Два дні ў Магілёве адбываўся безпрэцэдэнтны страйк на мясцовай станцыі хуткай дапамогі. Тры дзясяткі кіроўцаў машын абвесьцілі, што ня выйдуць на працу, пакуль ім ня выплацяць заробкі за два апошнія месяцы. Трэба сказаць, што ў сярэднім кіроўцы атрымліваюць у месяц ня больш, чым 36 даляраў ЗША ў эквіваленце. У першы дзень страйку ўсё ж працавалі некалькі брыгад кардыялягічнай дапамогі, а гарадзкое начальства паабяцала, што да вечара ўсё выплаціць. Але не стрымала свайго слова, і таму наступным ранкам гісторыя паўтарылася. Толькі цяпер ужо ніводная машына хуткай дапамогі на лінію ня выйшла. Аж да 14-й гадзіны хворым прапаноўвалася прывозіць і адвозіць дактароў на ўласным траспарце, калі ён у іх меўся. Потым страйкоўцам выплацілі заробкі. Як стала вядома зь неафіцыйных крыніцаў, у наступным месяцы мэдыкам таксама затрымаюць заробкі з прычыны нястачы сродкаў у бюджэце.**

Упраўленьне культуры аблвыканкаму распрацавала "плян мерапрыемстваў", прысьвечаных 120-годзьдзю з дня нараджэньня народных паэтаў Беларусі Янкі Купалы і Якуба Коласа. Усё ў гэтым пляне, як заўжды было ў падобных савецкіх дакумэнтах, прадугледжана: фальклёрныя канцэрты, спэктаклі народных тэатраў, інсцэніроўкі ў школах... Аднак дастаткова раз убачыць гэты плян, каб зразумець усю нашую культурную сытуацыю. Ён напісаны... па-руску. Няўжо народныя паэты не заслужылі на ўшанаваньне ў роднай мове? Пытаньне...

**70% тэхнікі, якую выкарыстоўвае магілёўская мэдыцына, альбо ўжо адпрацавала свой рэсурс, альбо знаходзіцца ў вельмі зношаным стане. Пра гэта паведаміў кіраўнік абласной філіі прадпрыемства "Мэдтэхнацэнтар" Валеры Шашкевіч. Пры гэтым кантраляваць працаздольнасьць і бясьпечнасьць старой і капрызнай тэхнікі з кожным годам усё цяжэй. Шмат якія лекарскія ўстановы ўвогуле ня маюць сродкаў на гэтыя мэты. Агульная запазычанасьць нашай мэдыцыны перад згаданым прадпрыемствам складае зараз амаль 200 мільёнаў рублёў.**

У Дрыбінскім раёне, як і паўсюдна, сельская гаспадарка – найвялікшы пазычальнік у энэргетыкаў. Амаль 900 мільёнаў рублёў завінаваціліся гаспадаркі раённаму прадпрыемству электрасетак. Два месяцы розныя гаспадарчыя ўстановы не асьвятляліся. А потым прыйшоў адміністрацыйны загад: усе пазыкі сьпісаць і сьвятло ўключыць, паколькі трэба рыхтаваць тэхніку да веснавой сяўбы. Натуральна, што энэргетыкі загаду падпарадкаваліся. І вось – сьвятло гарыць, а новыя даўгі назапашваюцца. Ці далей будзе лепей?..

**Паводле афіцыйнай статыстыкі, у Магілёве сёньня функцыянуе звыш за 60 інтэрнатаў. У іх жыве больш за 30 тысяч чалавек, альбо – шостая частка працаздольнага насельніцтва. Гэтыя рэлікты сацыяльнай справядлівасьці "па-савецку" працягваюць існаваць па-старому. Людзі, якія там жывуць, часьцяком пазбаўленыя магчымасьці годнага чалавечага існаваньня й ня маюць у нашых умовах пэрспэктывы зьмяніць свае жыльлёвыя ўмовы. Напрыклад, каб запрасіць госьця ва ўласны пакой, дарослыя мужчыны й жанчыны павінны атрымаць дазвол у камэнданта.**

*Свой погляд на падзеі тыдня прэзэнтаваў Сымон Глазштэйн.*

## Ці не спазьніліся галасы пратэсту


ПАГОНЯ
Папа Рымскі спаткаецца з гарадзенцамі

**Пазаўчора рада Беларускай асацыяцыі журналістаў абмеркавала стан, што склаўся вакол крымінальнай справы Гарадзенскай пракуратуры супраць журналістаў "Пагоні" М.Маркевіча і П.Мажэйкі.**

Кіраўнік Цэнтру абароны СМІ Міхаіл Пастухоў паведаміў, што ў яго асабіста (у выніку аналізу гарадзенскай сытуацыі) досыць трывожнае адчуваньне. Яно таксама падтрымваецца і самімі падсьледнымі журналістамі, якія не сумняваюцца ў тым, што суд супраць іх будзе аганжаваны ў бок абвінавачваньня. Яны паведамілі ў Цэнтар абароны СМІ аб тым, што сьледчы не рэагуе на іхныя законныя хадайніцтвы, бо, як складваецца ўражаньне, ня хоча рызыкаваць паслабненьнем сваёй абвінаваўчай пазыцыі.

Рада БАЖ з жалем адзначыла, што многія палітычныя, грамадзкія і творчыя арганізацыі краіны засталіся даволі абыякавымі да перасьледу "Пагоні" і яе журналістаў. Зь іншага боку, было падкрэсьлена, што афіцыйныя інстанцыі як у Горадні, так і ў сталіцы праявілі поўную абыякавасьць да зваротаў нават аўтарытэтных замежных структураў. Тым ня менш рада БАЖ прыняла рашэньне працягваць барацьбу за сваіх калегаў і яшчэ раз зьвярнулася да ўсіх дзейных грамадзкіх арганізацыяў краіны з заклікам прыняць удзел у высакароднай справе абароны свабоды слова і дэмакратыі.

Тым часам БАЖ шчыльна займецца арганізацыяй правядзеньня ў хуткім часе ў Менску адмысловых грамадзкіх слуханьняў па праблемах СМІ ў Беларусі з удзелам эўрапейскіх палітычных і дзяржаўных структураў, прафэсійных і праваабарончых арганізацыяў з многіх краінаў кантынэнту.

Што тычыцца пачатку суда над гарадзенскімі журналістамі,то мяркуецца, што першыя паседжаньні пачнуцца ў сярэдзіне красавіка.

***Уласная інф.***

### ЗЯНОН ПАЗЬНЯК: ПРАСКІ РОЗГАЛАС

# Коратка і шчыра

***Чэская сталіца сталася месцам правядзеньня двух важкіх акцыяў з удзелам З.Пазьняка. Лідэр Кансэрватыўна-Хрысьціянскай партыі – БНФ, таксама вядомы ў краіне і па-за ейнымі межамі як мастацтвазнаўца, выступіў зь першай лекцыяй у Карлавым унівэрсытэце, дзе на філязоўскім факультэце распачаўся курс беларускай гісторыі. Другім днём З.Пазьняк на запрашэньне вядомай чэскай грамадзкай арганізацыі "Чалавек у нядолі" меў гадзінную сустрэчу з наведвальнікамі яе інтэрнэтавага сайту. Напярэдадні па электроннай пошце і непасрэдна ў часе сустрэчы яму было зададзена больш за 100 пытаньняў зь Беларусі, Польшчы, Чэхіі, ЗША. "ТМ" выбраў з гэтай гаворкі найбольш цікавае, што, спадзяемся, будзе цікавым і для нашых чытачоў.***

**Ксэнія Адэліна: Сп.Зянон, якая плыня ў мастацтве і літаратуры Вашая ўлюбёная?**

**Пазьняк:** Я ўвогуле люблю мастацтва, асабліва мастацтва рамантычнае – сьветлыя, чыстыя і вялікія ідэі.

**– Сп.Зянон, за які Вы гімн?**

**Пазьняк:** Магутны Божа.

**– Ці магчымае калі не аб'яднаньне, то шчыльнае супрацоўніцтва паміж двума часткамі Фронту?**

**Пазьняк:** Тая, другая частка Фронту, публічна адмовілася ад нацыянальнай ідэі. Яны сталі супрацоўнічаць са старой камуна-савецкай намэнклятурай. Правалілі выбары й сталі прыладай у руках чужой палітыкі. Узаемадзеяньне зь імі малаверагоднае, але магчымае пры ўмове падтрымкі імі беларускай нацыянальнай ідэі.

**Борман: Чым нацыянальная ўлада можа быць лепшая за лукашэнкаўскую, акрамя таго, што яна будзе нацыянальная? Ці можна будзе чакаць ад нацыянальнай улады (дыктатуры альбо дэмакратыі) легалізацыі наркотыкаў, права на валоданьне аўтаматычнай зброяй, права на эўтаназію і гомасэксуальныя шлюбы?**

**Пазьняк:** Улада мусіць быць дэмакратычнай, грунтаванай на маральных і культурных каштоўнасьцях беларускага народу. "Лібэральнага" набору гэтых адхіленьняў, пра якія Вы кажаце, на Беларусі ня будзе. Бо гэта супярэчыла б нашай народнай і чалавечай прыродзе, не адпавядала б Божай праўдзе.

**Віталь Станішэўскі: Як Вы ставіцеся да ідэяў Дж.Шарпа пра негвалтоўную барацьбу і як, на Вашую думку, яны ажыцьцяўляюцца ў цяперашнім палітычным змаганьні на Беларусі?**

**Пазьняк:** Да ідэяў сп.Шарпа стаўлюся станоўча. Нават дамоўлена зь ім, што ён перакладзе свае працы на беларускую мову. Аб выкарыстаньні ідэяў Шарпа на Беларусі можна казаць толькі ўмоўна. У асноўным тут выступаюць палітычныя імітатары.

**Даніла: Паважаны спадар Пазьняк! Ці ня лічыце Вы мэтазгодным Вашае вяртаньне ў Беларусь напярэдадні шэрагу выбарчах кампаніяў – у мясцовыя саветы, парлямэнцкіх выбараў і г.д. Ці будзе партыя КХП-БНФ удзельнічаць у гэтых кампаніях? Лічу, што Вашае вяртаньне здольнае абудзіць "соннае царства" нашай краіны.**

**Пазьняк:** Маё вяртаньне наўрост зьвязанае з крахам рэжыму Лукашэнкі й гэта галоўная мэта маёй палітычнай дзейнасьці на эміграцыі. Пытаньне ўдзелу альбо няўдзелу ў мясцовых выбарах будзе вырашанае пазьней, калі рэальна паўстане такое пытаньне.

**Андрэй: Адным з вынікаў сытуацыі на Беларусі сталася масавая эміграцыя моладзі. Шмат хто з маладых беларусаў уладкоўваецца за мяжой. Што, на Вашую думку, можна будзе зрабіць, каб заахвоціць іх да вяртаньня ў Беларусь?**

**Пазьняк:** Гэтыя маладыя людзі вернуцца ў краіну, калі зьнікнуць прычыны, з-за якіх яны яе пакінулі.

**Натальля зь Менску: Сп.Зянон, якімі Вы бачыце шляхі зьмяненьня ўлады ў Беларусі? Ці існуюць магчымасьці арганізацыі новай выбарчай кампаніі? Сьвядомасьць людзей мяняецца вельмі марудна, шмат людзей удзельнічала ў фальсыфікацыях (удзельнікі выбарчых камісіяў розных узроўняў), а таму няма гарантыі, што ў новых выбараў ня будзе тое самае. Ці вы спадзяецеся на нешта іншае?**

**Пазьняк:** Зьмяненьне сытуацыі ў Беларусі патрабуе вялікай агульнай працы. Сытуацыю трэба рыхтаваць. Цяпер перш за ўсё: Нацыянальная асьвета і адукацыя. Праз Асьвету – да Свабоды. Тады зможам!

**Навучэнка ліцэю імя Якуба Коласа: Сп.Зянон, чаму цяперашняя беларуская апазыцыя не ўздымае пытаньне пра Вашае вяртаньне?**

**Пазьняк:** Таму што, відаць, яно ім невыгоднае. Мая прысутнасьць на Беларусі магла б зьмяніць іх спакойнае грантавае жыцьцё ды імітацыю палітычнай дзейнасьці.

***Паводле www.infoservis.net***

## ШТО НА ТЫДНІ... У БАБРУЙСКУ І КРЫЧАВЕ



***Ня будзе затрымкі з акцыянаваньнем "Белшыны", за якое ўжо прагаласавалі дэлегаты адмысловай канфэрэнцыі, скліканай па ініцыятыве адміністрацыі.***

Але паслухмянае галасаваньне не зьняло шматлікіх пытаньняў аб працэдуры прыватызацыі й далейшым існаваньні працоўнага калектыву. Адказаць на іх да бабруйчанаў зь Менску прыехалі старшыня Беларускіх Незалежных прафсаюзаў Віктар Бабаед і кіраўнік Цэнтру навучаньня пры БНП Павал Маўсіевіч.

Найбольш карыснай часткай сустрэчы рабочыя палічылі "дзелавую гульню", калі ўдзельнікі заняткаў падзяліліся на "урад", "адміністрацыю", "прафсаюз" і "працоўны калектыў". Аднак пераможцу ў часе гульні вызначыць не ўдалося. Хто стане ім на практыцы, тым больш невядома. Але найчасьцей сярод галоўных пакупнікоў "Белшыны" называюцца расейскія фінансова-вытворчыя кампаніі "Амтэл", "Сібур" і "Лукойл".

***Па выніках мінулага году, як вядома, горад абвешчаны "пераможцам абласнога спаборніцтва".***

Пачатак гэтага году вызначаецца ўсё больш масавымі затрымкамі выплатаў заробкаў. У лік пакрыўджаных патрапілі ня толькі "традыцыйныя" камунальнікі, але таксама й працоўныя завода "Вагапрыбор", фабрыкаў абутковых і мастацкіх вырабаў. Нечакана да іх далучыліся й мэдыкі. А вось настаўнікам нарэшце знайшлі грошы за сьнежань.

***Папярэднія вынікі падвёў Міжнародны сэмінар па праблемах наркаманіі, які працуе ў горадзе 5 месяцаў.***

Паводле анкетаваньня сярод удзельнікаў сэмінарскіх заняткаў (гэта ў асноўным старшаклясьнікі), кожны другі зь іх на сабе ведае, што такое наркотыкі.

***Тацяна КОПЕЦ***



***Прадстаўнікі мясцовых філіяў АГП, БНФ, БСДП "НГ", а таксама сябры грамадзкіх арганізацыяў зьвярнуліся ў Гарадзенскую абласную пракуратуру з патрабаваньнем спыніць перасьлед журналістаў недзяржаўнай газэты "Пагоня".***

Крычаўскія дэмакраты лічуць, што ўлады перасьледуюць журналістаў "Пагоні" за тое, што тыя сумленна выконвалі свае прафэсійныя абавязкі. "Гэтая крымінальная справа ёсьць ушчэмленьнем свабоды слова ў Беларусі, якая гарантаваная Канстытуцыяй..." – гаворыцца ў звароце крычаўскай грамадзкасьці.

***Учора ў Менску скончыўся конкурс аматарскіх відэафільмаў, у якім браў удзел прадстаўнік крычаўскай творчай кінастудыі "Пегас" Уладзімер Марачкоўскі.***

Ён прэзэнтаваў дакумэнтальны фільм "Востраў", які асьвятляе праблемы выміраньня беларускай вёскі й утрымвае філязофскія разважаньні на тэму агульнанацыянальнай памяці беларусаў. На думку аўтараў стужкі, гэтыя пытаньні сёньня надзвычай актуальныя для ўсяго нашага грамадзтва.

***Андрэй КУЗЬМІН***

# Сьветлы Дзень у Курапатах











У пачатку тыдня журналісты зь недзяржаўных рэгіянальных газэтаў краіны (на жаль, зь нямногіх) скарысталіся запрашэньнем БАЖ і валанцёрскага штабу наведаць Курапаты і прыняць удзел у рэспубліканскім паседжаньні прадстаўнікоў грамадзкасьці па абмеркаваньні прапанаваных апошнім часам шматлікіх праектаў збудаваньня ў сьвятым месцы мэмарыяльнага помніку-знаку. Адзначу, забягаючы наперад, што ўдзел у гэтым паседжаньні быў найменш цікавай часткай праведзенага ў Менску "курапацкага дня". Можа, з-за міжвольнага адчуваньня кантрасту...

З аднаго боку – няўтульны лес, што яшчэ не разьвітаўся як сьлед зь зімой. Пачарнеўшы звонку і знутры ад дыму, ветру і сьнегу валанцёрскі намёт. Шчырыя, хаця й стомленыя, твары добраахвотных абаронцаў сьвятой тэрыторыі, якія непахісна трымаюцца тут амаль паўгады... А зь іншага – утульная заля купалаўскага музэя, дзе сабраліся пагаварыць наконт канцэпцыі будучага мэмарыялу (і шмат гадзінаў гаварылі) шматлікія прадстаўнікі палітычнай, грамадзкай і мастацкай інтэлігенцыі. А позна ўвечары, не прыняўшы ніякага рашэньня (дзеля справядлівасьці трэба сказаць, што задачы такой не было), вярнуліся ва ўласныя кватэры...

Хаця й разумееш, што менавіта спалучэньне таго й іншага – ***давядзеньне да незваротнай перамогі справы адстойваньня Курапатаў як месца будучага мэмарыялу і музэю народнай трагедыі й стварэньне такога мэмарыялу й музэю*** – і дазволіць цяперашняму пакаленьню нашага грамадзтва супольна выканаць свой маральна-гістарычны абавязак перад сабой жа і ўсімі папярэднімі беларускімі пакаленьнямі, кожнае зь якіх так ці іначай ахвяравала сабой дзеля нацыянальнай Волі.

... Сьветлыя ж хвіліны наведаньня Курапатаў і асабістага знаёмства з валанцёрамі ня хочацца прыніжаць ніякімі, а тым больш высокімі, словамі. У гэтым месцы ўсё гаворыць самое за сябе. Пачуць і адчуць тое можна толькі падчас непасрэднага нетаропкага блуканьня па лесе ўздоўж ямінаў былых безымянных пахаваньняў і нядаўна паўстаўшых народных драўляных крыжоў. Шмат што да пачуцьцяў, якія ахопліваюць тут, дадае высока ўзьняты над валанцёрскім лягерам нацыянальны Сьцяг...

Якія тут яшчэ патрэбныя словы?.. Валанцёры чулі на свой адрас і камплімэнты, і праклёны. Іх не пакідаюць у спакоі ОМОН і суд. Ім раяць зачыніць лягер і працягнуць змаганьне іншымі мэтадамі...

Усяго гэтага абаронцам хапае. Чаго ім не стае, дык гэта падмогі. Звычайнай пабытовай падмогі. (Дарэчы, "Тыднёвік" разам з "Колам сяброў" гэта прадбачліва ўлічылі). А больш за ўсё валанцёры ўдзячныя тым, хто зь імі маральна і па настрою душы. Яны гэта нейкім чынам адчуваюць. І ведаюць, што людзей такіх увесь час большае.

А значыць, упэўненыя абаронцы, перамога сумленьня і праўды над бязпамяцтвам і бяздушшам забясьпечаная. Якой бы яшчэ няблізкай яна не была...

***Генадзь СУДНІК***

ГЭТА – ТВАЕ КОНКУРСЫ!

## "Мой родны горад"



"Ініцыятыва Ханса Барта" (г.Вайнгартэн, Нямеччына) з удзелам Магілёўскага ГА "Кола сяброў" і студэнцкага руху "Mach mit!" (у падтрымку вывучэньня нямецкай мовы) абвяшчаюць конкурс творчых працаў на тэму "Мой родны горад". Конкурс пройдзе з 1-га сакавіка па 15-га траўня.

... 28-га студзеня 1577г. і 9 чэрвеня 1661г. – знакамітыя даты для Магілёва. Тады горад атрымаў Магдэбурскае права. Пасьля гэтых падзеяў Магілёў трымаўся эўрапейскіх законаў і каштоўнасьцяў. Кожны жыхар гораду лічыў яго ўласным домам, клапаціўся аб ім. Ці памятаем мы зараз аб тых слаўных традыцыях гарадзкой культуры? Бо вельмі важна, каб яны вярнуліся ў наша сучаснае жыцьцё.

**Умовы**

Да ўдзелу запрашаюцца школьнікі, навучэнцы каледжаў і ліцэеў, а таксама студэнты ВНУ, якія цікавяцца гісторыяй свайго гораду й вывучаюць замежныя мовы.

Прымаюцца наступныя творчыя працы: сачыненьні, насьценныя газэты, відэафільмы й інтэрнэт-сайты на нямецкай альбо ангельскай мовах на тэму "Мой родны горад". Ацэньвацца працы будуць па двум узроставым групам: школьнікі, навучэнцы каледжаў і ліцэеў; студэнты ВНУ.

**Вынікі**

Кампэтэнтнае журы агалосіць вынікі 31-га траўня 2002г. Пераможцы будуць узнагароджаныя каштоўнымі прызамі й падарункамі.

**Кантакт**

Той, хто хоча ўзяць удзел у арганізацыі й правядзеньні конкурсу, можа зьвяртацца на адрас: а/я 14, 212022, Магілёў ці e-mail: gvozdeva@krug.unibel.by



## "Мая Магілёўшчына"

Абласны цэнтар фізычнага выхаваньня і спорту й Магілёўскае грамадзкае аб'яднаньне "Кола сяброў" абвесьцілі конкурс сярод навучэнскай моладзі на лепшы навукова-дасьледчы рэфэрат па краязнаўству. Ягоная агульная тэма – "Мая Магілёўшчына".

Асноўная мэта конкурсу – заахвочваньне станаўленьня ў моладзевым асяродзьдзі нацыянальнай самасьвядомасьці, выхаваньня патрыятызму, павагі да гістарычнага мінулага сваёй радзімы й любові да роднага краю.

**Умовы**

Аўтарытэтнае журы да 10-га красавіка прымае асобныя і калектыўныя конкурсныя працы па некалькіх намінацыях. Асноўныя зь іх – "Летапісаньне родных мясьцінаў", "Трагічныя старонкі гісторыі", "Адраджэньне культуровых традыцыяў", "Прыродная спадчына".

**Вынікі**

Напрыканцы красавіка арганізатары мяркуюць правесьці сход пераможцаў і ляўрэатаў конкурсу, падчас якога будуць уручаныя 12 дыплёмаў і каштоўных падарункаў. Удзельнікі сходу наведаюць старажытны Полацак.

**Кантакт**

Удакладніць усе дэталі абвешчанага конкурсу можна па тэлефоне: 22-16-20 (Цэнтар фізычнага выхаваньня і спорту).

МАСТАЦКАЯ ГАСЬЦЁЎНЯ "ТМ"

# Біжутэрыя і парасткі мастацтва

***... Зайшоў днямі ў магілёўскі салён мастацтва па вул.Болдзіна й быў зьдзіўлены людзкім гоманам. Але хутка сталася зразумелым, што зусім не мастацкая экспазыцыя, прысьвечаная Бялыніцкаму-Бірулі, прывабіла сюды публіку ў будзёны дзень, а выстава-продаж вырабаў з камянёў і срэбра.***

Што ж, дзякуй Богу, што гандлююць у салёне пакуль не майткамі ці гарэлкай, а біжутэрыяй, бо – таксама мастацтва. Вядома, што жывапіс на сёньня саступае ў папулярнасьці ювэлірным сувэнірам, хаця, сказаць шчыра, і яны раскупляюцца ўжо ня так шпарка, як 10 год таму. Крызыс, нястача, ці як скажуць, відаць, будучыя гісторыкі – вялікая беларуская дэпрэсія...

Як жа пачуваецца на гэтым фоне ўласна мастацтва? Экспазыцыя атрымалася традыцыйнай і прадказальнай, як сустрэча з старшымі знаёмымі. Аднак жа сэнс і сакрэт мастацтва ў тым і ёсьць, каб адкрыць незнаёмае ў знаёмым, адшукаць незвычайнае ў звыклым і шмат разоў бачаным. Гэтыя моманты зьдзіўленьня-адкрыцьця і рухаюць, як вядома, самое мастацтва і нас прываблiваюць. Аднак гэтым разам выстава не прынесьла сэнсацыяў, а падарыла толькі некалькі міні-адкрыцьцяў.

Найбольшай колькасьцю твораў вызначыўся М.Казлоў. Сярод ягоных шматлікіх напаўаматарскіх пэйзажаў заслугоўвае ўвагі палатно "Аўражык". Побач з гэтым сталым прафэсійным творам таксама някепска выглядае сьціплы "Восеньскі вечар" бялынічанкі Ларысы Журавовіч. Як заўсёды тонка і выкшталцона кранаюць гледача мройныя зімовыя краявіды Рыгора Таболіча. Цікавы й сьвежы калярыт маюць карціны Мікалая Ўласава, які праявіў вобразную цікавасьць да аднаго зь беларускіх сымбаляў – белавескіх зуброў. А з клясычных пэйзажаў найлепшы на выставе твор – "Ранак" Паўла Дзімітрыядзі. Карціна ўраўнаважаная, гарманічная, выкананая ў лепшых традыцыях рэалістычнага жывапісу. Майстар і знаўца ружова-бэзавых адценьняў У.Шпартаў прэзэнтаваў на выставе "Мікольскі храм", што гучыць у яго панацку радасна і нават рамантычна. Дарэчы, Падмікольле – самы папулярны сюжэт нашых пэйзажыстаў, месца паломніцтва амаль усіх тутэйшых мастакоў.

Цікавым таксама падалося мне палатно Базыля Камарова "Памыты горад". Гэтая рэмінісцэнцыя на тэму даўно, на жаль, зьніклых, зруйнаваных магілёўскіх бажніцаў. Яны, амытыя дажджом, убачаныя нанова з вакна ці то студыі, ці то ўласнай кватэры. Вось гэта якраз той момант адкрыцьця і нечаканасьці, які й мусіць дарыць нам сапраўднае мастацтва. Другім адкрыцьцём выставы я б назваў карціну Валерыя Юркова "Замкавая гара". Гэты твор для аўтара нетыповы. У яго больш карцінаў імпрэсіянічных, таямнічых, дзе праз стыхію шматфарбавых мазкоў праглядаюць няпэўныя, туманныя вобразы... На гэтай жа карціне мы вельмі дакладна, амаль фатаграфічна бачым абрысы гары "Магіла" – таго самага сакральнага месца, адкуль й пайшоў наш Магілёў. Калі прыгледзецца, можна адчуць, што гара нібы жывая, што магутны Машэка нібы прыснуў тут толькі на час і вось-вось ачуняе. Гэты мітычны партрэт Гары-магілы, што дае пачатак новаму жыцьцю, цяпер успрымаецца больш глыбока і сымбалічна, асабліва калі дазнаесься, што сам мастак нядаўна пайшоў з жыцьця...

Дык як жа пачуваецца нашае мастацтва, ці ёсьць якая пэрспэктыва ў яго? На выхадзе з выставы ўвагу прыцягнула невялікая карціна Д.Пухоўскага – з голага зімовага пэйзажу вытырквающца замерзлыя цурбалкі сьпілаваных дрэваў. Ці ажывуць яны вясной, ці дадуць новыя парасткі? Хто ведае... Тыя ж пытаньні пакідае ў юбілейны год Бялыніцкага-Бірулі й апошняя магілёўская выстава.

***Васіль АЎРАМЕНКА***

# Дэмакраты сыходзяць прыстойна

**Да заканчэньня прэзыдэнцкага мандату Вацлава Гавэла застаецца ўжо менш за год, і пытаньне аб ягоным пераемніку гучыць у Чэхіі ўсё мацней.**



З адыходам Вацлава Гавэла рэальна й сымбалічна скончыцца фаза трансфармацыі чэскага грамадзтва ад камунізму да дэмакратыі. За мінулы пэрыяд ў краіне збольшага ўжо адбыліся структурныя зьмены, і цяпер Чэскую Рэспубліку чакае іспыт на сьпеласьць да інтэграцыі ў эўрапейскія структуры.

Усё кажа за тое, што прэзыдэнт, якога абяруць на бліжэйшых выбарах, будзе шмат у чым адрозьнівацца ад В.Гавэла. Бо, перш за ўсё, ён ня прыйдзе на пасаду пад уплывам вялікіх гістарычных зьменаў. Зараз з упэўненасьцю можна сказаць, што пасада прэзыдэнта стане аб'ектам палітычных саступак і перамоваў. Падаецца праўдападобным, што ў выпадку посьпеху традыцыйнай "двойкі": Грамадзянскай дэмакратычнай партыі й Чэскай сацыял-дэмакратычнай партыі, прэзыдэнтам стане адзін са старшыняў гэтых партыяў – Вацлаў Клаўс ці Мілаш Зэман. Але ёсьць і яшчэ колькі кандыдатаў, сярод якіх добра выглядае былы міністар юстыцыі, а цяпер грамадзкі абаронца правоў чалавека Отакар Мотэйл.

... Хто б ні стаў прэзыдэнтам Чэхіі, гэты чалавек распачне новы этап разьвіцьця краіны, цягам якога былая камуністычная рэспубліка канчаткова замацуе сваё месца ў вольнай супольнасьці эўрапейскіх нацыяў.

***Радка КУБІЧКА***

## Кніжныя навінкі

**У Менску адбылася прэзэнтацыя кнігі "Свабода@без.цябе".**

У кнізе сабраныя матэрыялы пра рухі негвалтоўнага супраціву камуністычным рэжымам у найноўшай гісторыі Эўропы: сэрбскі студэнцкі рух у Бялградзе 1996-1997гг. і польскі мастацкі супраціў 80-х гадоў. Укладальніца кнігі Ёланта Кільян адзначыла, што гэтае выданьне распавядае аб альтэрнатыўнай культуры, якая па-свойму адлюстроўвае жыцьцё – ня так, як афіцыйная альбо масавая культура.

Падчас прэзэнтацыі адзін з выступоўцаў зазначыў, што гэтая кніга – своеасаблівая інструкцыя да карнавальнай рэвалюцыі, трансфармацыі грамадзтва сродкамі мастацтва, бо змагацца лепш з мэтафізычнымі праблемамі, а не з уладамі.

Усе цікаўныя могуць замовіць выданьне "Свабода@без.цябе" па адрасе: pauluk@tut.by.

***Вольга МІКАЛАЙЧЫК***

## ШТО НА ТЫДНІ... У ГОРКАХ

***Сёлета да вучобы не прыступілі многія студэнты Сельгасакадэміі, што былі накіраваныя на практыку ў замежжа.***

Штогод больш за 300 студэнтаў выпускных курсаў накіроўваюцца на практыку – у асноўным у расейскія сельгасгаспадаркі. І добра, калі вяртаецца толькі палова зь іх. Таму адміністрацыя сёлета ўводзіць парадак падпісаньня з практыкантам і ягонымі бацькамі адпаведнай дамовы. Калі студэнт ня вернецца ў альмаматэр, бацькі павінныя будуць выплаціць Акадэміі пэўную суму ў якасьці кампэнсацыі затратаў на навучаньне недысцыплінаванага студэнта. Але пачаць эксьпэрымэнт усё ж вырашылі з паменшанай колькасьці "замежных практыкантаў". Сёлета іх будзе якраз палова ад ранейшай звычайнай лічбы – 175 чалавек.

***Натальля КІРЫЕНКАВА***

ЧОРНЫ КАЛЯНДАР

# І тут, і там – чужына...

***Ад 7-га траўня 1999г. няма Юрыя Захаранкі, ад 16-га верасьня 1999-га няма Віктара Ганчара і Анатоля Красоўскага, ад 7-га ліпеня 2000-га – Зьмітра Завадзкага.***

Праваабаронцы з арганізацыі "Міжнародная амністыя" выказалі перасьцярогу, што пакараньне сьмерцю Ігнатовіча, Маліка, Савушкіна і Гуза, якіх за зачыненымі дзьвярамі судзяць па справе выкраданьня Зьмітра Завадзкага, прывядзе да таго, што ніколі ня стануць вядомымі сапраўдныя арганізатары гэтага злачынства. "Міжнародная амністыя" не выключае, што выкраданьне апэратара ОРТ замовілі асобы з кіраўнічых колаў Беларусі й таму заклікае не сьпяшацца з прысудам, а больш уважліва расьсьледаваць справу Завадзкага. Дарэчы, жонка Завадзкага Сьвятлана пагаджаецца з пазыцыяй "Міжнароднай амністыі".

Тым часам Людміла Карпенка, якая ад пачатку году знаходзіцца ў Нямеччыне, паведаміла, што зьвярнулася да ўладаў гэтай краіны па палітычны прытулак для сябе і сваіх родных. "Мне вельмі цяжка даўся гэты крок, – патлумачыла яна. – Але пасьля прэзыдэнцкіх выбараў я ня бачыла для сябе ніякай магчымасьці актыўна займацца палітычнай дзейнасьцю ў Беларусі".

***Алег ГРУЗЬДЗІЛОВІЧ***



Магілёўская навуковая інтэлігенцыя і актывісты сучаснай сацыял-дэмакратычнай палітычнай плыні, заснаванай Міхасём Ткачовым, адзначылі ў мінулую нядзелю 60-годзьдзе з дня нараджэньня выбітнага навукоўца, выкладчыка і пісьменьніка.

У першай палове дня яны наведалі старажытны Мсьціслаў, дзе нарадзіўся і працяглы час жыў М.Ткачоў, а вечарам у абласным цэнтры была наладжаная вечарына памяці. Мы ілюструем яе фотаздымкамі ***А.Ліціна,*** на якіх – момант выступу на вечарыне гісторыка Ігара Марзалюка і ўдзячная аўдыторыя ўдзельнікаў памятнага мерапрыемства.



Рэдактар Генадзь СУДНІК

Тыднёвік Магілёўскі

Аналітычна-інфармацыйная газэта.
Заснаваная Магілёўскім ГА «КОЛА СЯБРОЎ».
*Зарэгістраваная ў Дзяржкамітэце РБ па друку 06.11.1996 г. за № 831.*
*Штотыднёвік*

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
212030, г. Магілёў, вул. Першамайская, 6-22.

Тэл./факс: 31-04-15, 22-97-82.
E-mail: krug@user.unibel.by
Інтэрнэт: http://tydniovik.hypermart.net

Газэта надрукаваная афсэтным спосабам у абласной друкарні імя Сьпірыдона Собаля, г. Магілёў, Першамайская 70. Замова 11. Наклад 2000 асобнікаў. Падпісана да друку 14.03.2002 г. а 17.05